Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 4. Вільня, Субота, 28-га лістапада 1925 г. Год I.



## Гляньце праўдзе у вочы!

Трэба было прыждаць ажно такога страшэннага эканамічнага крызісу, як той, што яго цяпер перажывае Польшча, каб польскае грамадзянства адважылася глянуць праўдзе ў вочы—ў адносінах да польскага дзяржаўнага будаўніцтва „навырост" і жыцьця „панад стан"... Трэба было, каб Польшча апынулася на самым краю пропасьці, да якой з заплюшчанымі вачым яна йшла няўхільна ў працягу цэлага раду гадоў,—каб толькі цяпер Сойм прыступіў да ліквідацыі церазьмернае „разбудовы" бюджэту Польшчы і ўсяго таго, што не пад сілу польскаму народу...

Але, распачаўшы санацыю „санацыі" гаспадарчага жыцьця, польскае грамадзянства і польская ўлада ня могуць ці мо' ня хочуць глянуць праўдзе ў вочы, паскольку гэта адносіцца да польскае нацыянальнае палітыкі датычна „нацыянальных меншасьцяў", перад усім-жа беларусаў. І трэба ясна гэта сказаць, што іменна польская ўлада—польская адміністрацыя стараецца не дапусьціць да таго, каб польскае грамадзянства ведала праўду аб настроях і імкненьнях беларускага народу пад уладаю Польшчы.

Даволі толькі паважна падумаць аб тых варунках, у якіх жывуць беларусы ў межах Польскага гаспадарства, каб сказаць наперад, што *беларускае сялянства мае шмат больш прычын дзеля нездавольства, чым—польскае.* У галіне падаткаў, калі-б нават лічыць, што падаткавы цяжар роўна раскладзены і на польскае і на беларускае сялянства, — беларусы знаходзяцца ў шмат горшым палажэньні за палякоў ужо хоць-бы затым, што Заходняя Беларусь перажыла страшэнны ваенны і паваенны разгром, якога Польшча ня бачыла, дый польская ўлада блізу нічым не прычынілася да адбудовы зруйнаванае беларускае вёскі.... Самаўрады ў этнаграфічнай Польшчы, хоць і не ідэальныя, усё-ж працуюць болей-меней самастойна, клапоцячыся аб інтарэсы ня толькі панскіх двароў, алі і сялянства; а ў нас існуе толькі нейкая фікцыя самаўрадаваньня, і ўсе „соймікі" акуратна абсаджаны людзьмі па выбару паноў старостаў.... Польскі народ мае школу ў роднай мове; мы сваей роднай школы зусім пазбаўлены.... Урэшце, польскае сялянства — праўда, толькі „кулацкага" тыпу—мае надзею на атрыманьне зямлі—калі не ў сябе пад бокам, дык на нашых „крэсах"; а вось беларускія сяляне і гэтае надзеі пазбаўлены, бо ўсе вольныя землі ў Заходняй Беларусі празначаны перад усім для паноў польскіх асаднікаў....

І вось, ня гледзячы на гэта, якраз у той мамэнт, калі польскае сялянства пачынае выяўляць ўсё больш і больш сваё нездавольства ўтварыўшымся ў Польскай дзяржаве палажэньнем,—у гэты самы мамэнт за грошы, асыгнаваныя з „дыспозыцыйных" (безатчотных) сум дэлегатуры ўраду і пэўна-ж не бяз ведама пана міністра ўнутраных спраў Рачкевіча,—утрымліваная за ўрадавыя грошы „беларуская" арганізацыя „доктара" Паўлюкевіча склікае „беларускі" зьезд, які мае выносіць пастановы аб тым, што беларусы — насупраць усялякай лёгіцы і ачывістай праўдзе—„усім чым здаволены", дый нават больш здаволены гаспадаркай у нас польскае адміністрацыі, чым польскі народ — гаспадаркай сваей „роднай" адміністрацыі ў сябе дома....

Гэта-ж—яўнае баламуцтва! Гэта — самае недастойнае баламучаньне польскага грамадзянства і закрываньне яму вачэй на праўду! І няўжо-ж і ў гэтай галіне дзяржаўнае палітыкі Польшчы патрэбны нейкія асаблівыя праявы, каб польскае грамадзянства глянула праўдзе ў вочы?!

Гэтыя „лёяльныя" беларусы, якіх склікае на „зьезд" Паўлюкевіч, (бо-ж „нелёяльныя", справядлівей: непрадажныя, туды не паедуць, калі ня хочуць пасьля за словы праўды апынуцца за кратай!), — вось гэныя розныя вясковыя „маленькія паўлюкевічы", якіх мо' галадуха заганяе да прадаваньня свайго сумленьня, назьдзіў напамінаюць нам „добрыя старыя часы", калі на спатканьне паляваўшага ў Белавежскай пушчы цара Мікалая адміністрацыя зганяла акалічных сялян — беларусаў, апранала іх у маскоўскія сялянскія вопраткі, абстрыгала валасы „ўскобку" і вучыла пяяць „Боже царя храни!" Але гэта было дужа *нявіннае* баламуцтва, каб зрабіць „яго вялічаству" прыемнасьць, паказаўшы, што на ўсенькіх неаб'ятных прасторах ягонае манархіі жыве „адзіны рускі народ".... Дый тыя, што ладзілі гэтую камэдыю, дужа добра разьбіраліся ў пытаньні аб тым, якое нацыянальнасьці гэныя „адданыя яго вялічаству" „мужички". Камэдыя-ж, якая разыгрываецца ў Заходняй Беларусі з „здаволенымі ўсім чым" беларускімі сялянамі,—шмат горшая: вынікі яе будуць бязумоўна *шкоднымі ня толькі для беларусаў, але і для самога польскага грамадзянства*, бязбожна баламучанага!

Няхай-жа нашы паслы ў Сойме пастараюцца раскрыць перад польскім народам істоту гэтае камэдыі, сарваць маску з „лёяльных" баламутаў! Няхай урэшце ўсё польскае грамадзянства гляне праўдзе ў вочы, і мо' з гэтага пачнецца запраўдная санацыя польскае нацыянальнае палітыкі, як і польскай дзяржаўнай гаспадаркі.

# Сойм.

### Паседжаньне Сойму.

У сераду адбылося паседжаньне Сойму, на якім новы прэм'ер зрабіў экспозэ (выклад праграмы) новага ўраду. Дыскусія над гэтым экспозэ, дый вельмі кароткая, зложаная з дэкляроцыяў клюбаў, мела адбыцца ў чацьвер.

Ведама-ж, цяпер справы пойдуць вельмі гладка: ўрадавыя партыі пойдуць супольным фронтам проці польскага і няпольскага сялянства ў Польшчы, ды перад усім зачыняць рот прадстаўнікам сялянства ў Сойме... „Каб ня траціць дарагога часу лішнімі прамовамі"!

Можна думаць, што тая „тактыка", якую дагэтуль спрытна тасаваў віцэ-старшыя Сойму п. Морачэўскі (ППС) да паслоў Беларускай Сялянскай-Работніцкай Грамады (а перад усім да п. Тарашкевіча, лоўка зачыняючы яму „пад самым носам" сьпісак аратараў!), цяпер урадавай большасьцю Хіена-Пяста-ППС-аў будзе тасавацца да усей сялянскай чверці Сойму.

Што паны пэпээсы будуць „вясьці рэй", як кажуць палякі,—у гэтай акцыі, ясна паказала тое, што яны рабілі з прадстаўнікамі сялянства на скліканым імі сялянскім зьезьдзе ў Варшаве (пэпээсаўскія баёўкі ня толькі ня пусьцілі паслоў-сялян на „свой" зьезд, але яшчэ і зьбілі і скалечылі іх на вуліцы каля гмаху, дзе адбываўся зьезд!)...

### Абструкцыя НПХ і камуністаў.

Калі на паседжаньні Сойму 25. XI. зьявіўся новы прэм'ер Скшыньскі з ўсім складам ягонага габінэту, з мейсц „Незал. Партыі Хлопскай" і камуністаў пачуліся крыкі і вострыя словы проці новага ўраду. У мамэнт зьяўленьня п. Скшыньскага на трыбуне дзеля прачытаньня свайго экспозэ крыкі ўзнавіліся,—паміж іншым, як падае ПАТ, крычалі: „Вон абшарніцкі ўрад!", „Вон Станіслава Грабскага"!

### Урадавая большасьць.

Хаця жыдоўскую буржуазію „коаліцыя" ня прызнала годнай увайсьці ў склад ураду, аднак Жыдоўскае Кола падтрымлівае новы ўрад разам з польскай большасьцяй (эндэка-сацыялістычнай). Гэтак урад мае за сабой у Сойме 296 галасоў (на агульную лічбу 444 паслоў).

### ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

**№ 4 паслоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Унутраных Спраў у справе безпадных вобыскаў і масавых арыштаў і зьдзекаў паліцэйскіх органаў у Горадзеншчыне над арыштаванымі.**

Раніцаю 14 кастрычніка сёл. году быў зроблены вобыск у прытулку для беларускіх дзяцей у Горадні—у ўзгадавальніцы дзяцей п. Пісарэвічанкі, пры Мастовай вул., і у жыхароў дамоў, належачых да Беларускага К-ту апекі над гэтымі дзяцьмі, п. Лукашыка — старшыні Беларускага Дабрадзейнага Т-ва, Амяльянчыка, Карпінскага, Шаха, Ісаева, таксама ў праваслаўнага манаха а. Мітрафана, протодыякана Юрыя і манаха Ціхана.

Вобыск, які ня даў абсалютна ніякіх рэзультатаў, быў зроблены,—як звычайна, — толькі каб запужаць тых, хто сьмее весьці сярод беларускае люднасьці працу—хоць-бы чыста дабрадзейскага характару, а значыць ня маючага нічога супольнага з палітычнымі пачынаньнямі. І навет гэтакіх беларусаў, прапаўнікоў на ніве добрачыннасьці, улада бясьпечнасьці ня хоча пакінуць у супакоі, а да палітычных праступнікаў залічаюць, відаць, і бедных сіротаў беларускіх.

Уначы з 16 на 17 кастрычніка ў 5 гадз. раніцы горадзенская паліцыя зрабіла вобыск у жыдоўскіх сынагогах на Фарштаце ў Горадні, а таксама ў галоўнай жыдоўскай гэт. званай хоральнай сынагозе. Пры гэтым вобыску, які зьяўляецца выразным пагвалчэньнем рэлігійнае свабоды жыдоўскай людпасьці, нічога ня знойдзена.

19 кастрычніка сёл. году ў 5 гадз. раніцы арыштаваны ў Горадні 28 вучняў прыватнай жыдоўскай духоўнай сэмінарыі, якая знаходзіцца пры так-зван. „Ківуц".

28 кастрычніка ў в. Жыдомля, Горадзенскага п., быў зроблены вобыск, прычым арыштаваны: Уладз. Палудзень, Янка Гнідка, Аляксей Янцулевіч, Мікалай Будзун, Васіль Куганюк і Толар Семянюк, якіх паліцыя адвяла на пастарунак у в. Казловічы, Верцялішскай гм., дзе іх нялюдзкім спосабам каталі.

У тым самым больш менш часе ў в. Абухова, Жыдамлянскай гм., быў арыштаваны Панасэвіч; у в. Завадзічы арыштавалі Янку Апалапку, Васіля Карыта, Мікіфара Лыгоўскага; у в. Маштaлеры — Сьцяпана Бабковіча.

Агулам у самай Горадні і ў Горадзенскім пав. арыштавалі сто колькідзесят людзей, якіх трымалі па 7—14 дзён у арышце пры „Urzędzie Śledczym" у Го-

радні, дзе іх падчас дапросу груба зьневажалі, абражалі і білі. Толькі пасьля сказанага працягу часу адаслалі няшчасных ахвяраў паліцэйскай інквізыцыі ў Горадзенскі вастрог.

Ужо сам факт, што частка тых арыштаваных, а іменна арыштованыя вучні жыдоўскай сэмінарыі ў Горадні, — па нейкім часе былі выпушчаны на волю, здавальняюча сьведчыць, што арыштоўваюць людзей зусім нявінных і бяз ніякіх да гэтага падставаў.

Незалежна, аднак, ад сцьвярджэньня поўнай беспадстаўнасьці гэтых арыштаў, — мусім падчыркнуць з поўным націскам—невядома каторы раз!—факты варварскага зьдзеку над арыштаванымі, каб гэткім шляхам схіліць іх да патрэбных паліцыі, а супярэчных з праўдаю, прызнаньняў.

І вось, заяўляючы зноў наш як—найвастрэйшы пратэст проці гэтакага роду стала паўтараючыхся фактаў, сцьверджаных за апошнія месяцы навет умеркаванымі прадстаўнікамі і „ugodowemi“ групамі работніцкай і сялянскай думкі,—мы, паслы Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, пытаемся ў п. Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці маніцца ён загадаць падлягаючым яму органам у Горадзеншчыне, каб перасталі рабіць беспадстаўныя вобыскі і арышты?

2) Ці маніўся-б ён урэшце забараніць падлягаючым яму органам публічнай бясьпечнасьці і палітычнай паліцыі—зьдзекавацца над арыштованымі і вырываць у іх такім шляхам фальшывых прызнаньняў?

3) Ці маніцца ён выясьніць справу зьдзекаваньня над арыштованымі ў апошнім часе ў Горадзеншчыне, пераважна ў Жыдамлянскай гм., дзе інквізытары паліцыі выявілі, можа, найбольшую агіднасьць, і ці маніцца ў рэзультаце пацягнуць да судовай адказнасьці вінавайцаў тых мукаў і інквізытарскіх зьдзекаў, робленых над вышэйпамянутымі ў гэтай інтэрпэляцыі беларускімі сялянамі?

Варшава 7/XI. 25.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### П. Вітас за—„рашучую апэрацыю“.

У сваім органе „Piast“ пас. Вітас піша:

„Гаспадарства — у такім стане, што ніякае кляйстраваньне яму ўжо не паможа. Яно толькі працягне і запаліць хваробу. Вылечыць Польшчу можа толькі рашучая зьмена стану рэчаў,—рашучая апэрацыя, якая будзе вельмі цяжкай і балючай, але гэта — адзіны і неабходны спосаб“. Усё іншае—якраз тое, што робіцца ў Польшчы,—усё гэта „гаспадарка банкрута, якому ня ідзе ўжо аб заўтра, а важна ўтрымацца толькі сягоньня“...

Калі-б п. Вітас з сваей партыяй таксама добра рабіў, як добра сяньня гавора і разумее справу, дык каб не галасаваў за таго-ж Грабскага, якога так трафна крытыкуе, дык можа і не... належаў-бы і сам да ліку тых банкрутаў, якія толькі што, разам з ім, зрабілі „коаліцыю“.

### „Коаліцыя банкрутаў“...

Значна ясьней відзіць справу і лягічней паступае, — мо‘ дзеля таго, што... не належыць да паслоў Сойму,—правадыр польскіх радыкалаў — п. Стпічыньскі. У артыкуле „Верад дасьпявае“ — у сваей часопісі „Głos Prawdy“ — п. Стпічыньскі таксама рашуча стаіць за неабходнасьць рашучай апэрацыі і горача заклікае, каб зьявіўся нарэшце якісь „хірург (дыктатар...) з вострым лянцэтам“ (нажом), і — „для ратаваньня жыцьця хвораму акалечыў-бы яго навет, калі інакш ня можна адратаваць гэтае жыцьцё... „Акалечыў“—ня гледзячы на „нятыкальнасьць чалавечага цела, загарантаваную пісаным і абычным правам“ (Канстытуцыяй?!).

„Бо заграпічная сьлепата, піша ён, магла падсунуць соймавым банкрутам думку, быццам, злучыўшыся ў коаліцыю, яны будуць прадстаўляць нешта іншае, як — коаліцыю банкрутаў“... Новы „коаліцыйны“ ўрад—толькі апошняя спроба ратаваць Сойм ад паграseverжаючай яму заслужанай катастрофы. Але спроба гэта згары асуджана на няўдачу. Што-ж далей?—выбух адчаю і—катастрофа ў краі! Калі ў час ня прыдзе „хірург з нажом“—дыктатар, які пачне „запраўдную санацыю“, „выразаўшы“ ўсю гангрэну — „усемагутную ў Польшчы, усюды маючую свае экспазытуры, сваіх абаронцаў і пратэктароў, міжпартыйную хрысьціянска-аб‘яднаную мафію („Хіену“); хабарнікаў і растратчыкаў, карыстаючыхся з маральнага раскладу грамадзянства, азброеных куплянымі і прадаванымі патрыятычнымі фразамі, якім пакуль што верàць масы“...

Рысуючы гэтага прышлага дыктатара, роль якога „вымагае вялікай індывідуальнай моральнай сілы і адважнай рашучасьці ў выкананьні ясна пастаўленай мэты“, аўтар, здаецца, мае на гэтую роль ужо і гатовага кандыдата...—Ці не п. Язэпа Пілсудскага?..

### Вітас трэбуе палавіннага Бюджэту.

Вітасава „Wola Ludu“ піша:

„Мы—дзяды (жабракі), каб мець 2-мільярдны бюджэт“,—як гэтага хоча гонар Грабскага. „Мы павінны гэта сабе голасна сказаць і — абрэзаць бюджэт напалову“...

А што пісаў Вітас, калі Хільтон Юнг тое-ж радзіў зрабіць Грабскаму, калі яшчэ быў, можа, час?!...

### Скасаваньне забароны ўвозу з Латвіі.

Як ведама, латвійскі ўрад пагразіў зачыніць зусім (як Нямеччына) сваю граніцу для польскага ўвозу—пасьля таго, як Грабскі значна абмежаваў увоз з Латвіі ў Польшчу. „Ратуючы“ гэтым загадам гаспадарчую раўнавагу Польшчы, Грабскі тым самым, таксама як і ў канфлікце з Нямеччынай, справакаваў быў гаспадарчую вайну і з Латвіяй, пагаршаючы гэткім чынам гаспадарчы балянс краю,—бо зьмяншаючы яго выва́з. І вось першым крокам новага ўраду была капітуляцыя перад Латвіяй—дый ня толькі скасаваньне ўвезеных абмежаваньняў Грабскага, але яшчэ і далейшае пашырэньне права ўвозу з Латвіі ў Польшчу.

### Для каго ў Польшчы ёсьць грошы?

Пасол Корфанты, паміж іншым, стаіць на чале наглядная рады Сьлёнскага Банку, які шырока карыстаецца дзяржаўным крэдытам з Польскага Банку.

Дык вось гэты самы старшыня разьдзяляючай крэдыты рады дае самому сабе, ці розным сваім прадпрыемствам, вось якія кругленькія сумы:

Як фірма „Польспрыт“, Корфанты даў сабе з Сьлёнскага Банку—пазыку ў 349 тысяч злотых.

Як фірма „Горнаспрыт“, Корфанты атрымаў з таго-ж Банку крэдыту 189.000 злот.

Як газэта „Polonia“, той жа Корфанты набраў сабе 194.000 зл.

Як газэта „Rzeczpospolita“, той-жа Корфанты выцягнуў з таго ж банку 49.000 зл.

На сваю-ж „Друкарню Польскую Корфанты ўсё адтуль-жа даў сам сабе з спаганяных скарбам з падатнікаў грошаў—53.000 зл.

Урэшце сам асабіста „польспрытны“ п. Корфанты ўзяў сабе з таго-ж банку яшчэ 95.000 зл. і—22.000 даляраў...

А кажуць яшчэ, што ў Польшчы няма вольных капіталаў і—гэткі цяжкі крэдыт! —Каму „запраўды“ патрэбна, дык вось і ёсьць...

### Новыя мытныя надужыцьці.

Львоўская Мытная Дырэкцыя выкрыла вялікія надужыцьці—з увозам у край — без дазволу мін. скарбу — гішпанскага вінаграду. Гішпанскі вінаград ішоў у Польшчу з маркай „італьянскага“ і за дазволам толькі... польскіх консулаў у Італіі, ня гледзячы на забарону мін. Грабскага! Дзіва, што вінаград раптам так патаньнеў у Польшчы, бо мытаў, замест 200 злот. на 100 бочак лоўкія „імпортэры“-кантрабандысты плацілі толькі 87 злот. На ўсіх 11 вагонах гэткага таннага вінаграду для дэлікатных паноў і паняў у Польшчы скарб страціў усяго больш за 200 тысячаў злот.

### Што каштуе польскі цукер заграніцай?

Газэты сцьвярджаюць, што польскі цукер, які ў краі каштуе 110 злот. за 100 кілё, заграніцай прадаецца па...34 злот.! Акурат як было калісь у царскай Расеі, дзе мужык ня мог дакупіцца каштоўнага, хаця патрэбнага для здароўя прадукту, а заграніцай, напрыклад, у Англіі, расейскім цукрам кармілі сьвіней... Чаму-ж гэткая недарэчнасьць? — мо, запытаецца хто. — Таму, што немагчыма змусіць заграніцу плаціць дзіка паднятыя цэны, але ў сябе ў краі зрабіць з карыснага і патрэбнага ўсім цукру—манаполію цукроўнікаў-абшарнікаў і стацьцю ліхвярскага даходу скарбу, на гэта, як у Расеі, так і цяпер у Польшчы, абшарніцка-капіталістычныя ўрады пакуль што яшчэ маюць адвагу і сілу...

### Мілітарызацыя вастрожнай службы.

„Walka Pracy“ паведамляе, што міністэрства справядлівасьці мае—праз спэцыяльнае вышкаленьне —зьмілітарызаваць (паставіць на ваенную нагу) вастрожную адміністрацыю. Гэтай мерай, як кажа газэта, маняцца зламаць апор вязьняў проці нялюдзкага з імі абходжаньня.

### Расейскія манархісты едуць у Сірыю.

На дамаганьне Францыі, Польшча згадзілася выдаць Францыі ўсіх расейскіх манархістаў, якія знаходзяцца цяпер у польскай арміі. Вербаваньне манархістаў ужо пачалося. Кожны такі ваяка дастаець ад пасольства францускае рэспублікі наперад 5000, і яго адстаўляюць на польскіх караблёх у Францыю. У Францыі пераапранаюць яго ў францускую вайсковую вопратку і тагды пасылаюць на фронт у Сірыю.

# На парозе „Польшчы Скшыньскага“.

(*Ад інфляцыі—праз „стабілізацыю“—да капітуляцыі?*).

Вельмі лёгка паказаць, як цесна зьвязана была з „тэрытарыяльнай інфляцыяй“ Польшчы Пілсудскага ўся ўнутраная палітыка Грабскага. — Захапіўшы аружнай сілай — у часе „гістарычнага антракту“, — не запытаўшыся волі мясцовага насяленьня, а толькі на падставе „гістарычных правоў“ — вялізарныя тэрыторыі этнаграфічна-няпольскіх зямель, Польшча была змушана інтэнсыўна карыстацца мілітарна-паліцэйскай сілай і ў мірныя часы—дзеля ўтрыманьня ў пакорнасьці гэтага насяленьня, няпольская так сказаць, сьведамасьць якога расла не па дням, а па гадзінам... усё гэтае з фатальнай сілай об‘ектыўнага мусу надавала рэпрэсыйна-паліцэйскі, рэакцыйна-нацыяналістычны напрамак палітыцы Грабскага... Гэты напрамак даведзены быў у апошнія часы — шляхам паразуменьня лявіцы з правіцай у асобах Тугутта і Ст. Грабскага — да нячуванага ніколі і нідзе крывадушнага цынізму... Але **„стабілізацыю“ польскага нацыяналізму** чакае такі самы крах, як і ўсякую іншую,—тое-ж самае трэба сказаць і аб распачатай Грабскім у саюзе ўжо з пэпээсамі — **„стабілізацыі“ польскага абшарніцтва**, пасьля таго, як вялікая „інфляцыйная“ праграма Пілсудскага—сабраць у адно цэлае ўсе тыя землі, дзе толькі... ёсьць польскае абшарніцтва,—скончылася крахам.

---

Дзіўным—а можа і зусім натуральныя?—здарэньнем „Польшча Грабскага“ зьліквідавалася адначасна з ліквідацыяй ваеннай і ўсялякай гэгемоніі Францыі ў Эўропе і—паваротам на даўнае становішча ў „канцэрце“ эўрапэйскіх дзяржаваў Нямеччыны... Вельмі сымвалічна і тое, што, як сцьвярдзіў сам Грабскі, не дацаніўшы гэтага найважнейшага факту апошніх часоў перад усім для Польшчы, — апошні сьмяротны ўдар польскаму злотаму нанёс.. сам Грабскі, выклікаўшы эканамічную вайну з Нямеччынай... Вызваляючыся палітычна з-пад азброенай нагі Францыі, Нямеччына—так сабе—мімаходам фінансава і эканамічна дабіла „Польшчу Грабскага“. Гэтай першай перасьцярогі не зразумеў Грабскі, захоплены падтрымліваным праз увесь час Францыяй дзяржаўным гонарам і оптымізмам. Рэальнасьць абедзьвюх суседак Польшчы, закрытая дагэтуль Францыяй, робіцца для Польшчы ўсё ясьней і — нармальней. Істнаваць і вясьці барацьбу за сваё істнаваньне „Польшча Грабскага“—пры гэтых новых варунках—ня прывыкла і ня ўмее...

„Лёкарно“, адрэзаўшы Польшчу ад Францыі і пакінуўшы яе на рэальнае суседзтва перад усім з Нямеччынай, якая рашуча ставіць на чаргу заходня-эўрапэйскага дня справу сваіх усходніх граніц з Польшчай,—адначасна ставіць „крэс“ і ўсей тэй „Польшчы Грабскага“, якая ў значнай меры апірала сваю сілу на — такой-жа фікцыйнай сіле Францыі....

---

Што-ж мае быць далей? Якая новая Польшча мае прыйсьці на мейсца адыйшоўшай у вечнасьць „Польшчы Грабскага“?.

Лёгіка гісторыі, а нават, так сказаць „жаноцкая лёгіка“ польскай гісторыі зусім выразна дае адказ на гэтае пытаньне.

Ясна, што той, хто паставіў ад імя Польшчы гэты апошні „крэс“ „францускай Польшчы Грабскага“, той, хто зрабіў „Польскае Лёкарно“, пакінуўшы Польшчу на яе ўласныя сілы, — той і павінен даць новай Польшчы сваё імя, той павінен і вясьці Польшчу далей па гэтай новай дарозе... Куды-ж вядзе гэтая дарога?.. Вось у гэтым і зьмяшчаецца галоўнае пытаньне, на якое мы тут спрабуем даць небясьпечны з усіх бакоў адказ, — у вельмі агульным нарысе..

---

Той самы прынцып **капітуляцыі і самаабмежаваньня**, які ўжо рашуча быў паложаны ў Лёкарно саюзьнікамі—пераможанымі Нямеччынай яе нядаўнымі пераможцамі—у падставу новых адносінаў у Эўропе, павінен будзе легчы ў аснову новай польскай палітыкі, — у падставу новай „Польшчы Скшыньскага“... Мы ня будзем тутака падрабязна гадаць аб тым, што і як павінен будзе рабіць новы павадыр Польшчы на новым шляху... толькі сама сабой, што лёкарнскі прынцып **капітуляцыі** павінен будзе легчы ўжо зусім выразна і з усей сумнай рэальнасьцяй у аснову яго палітыкі, так „сымвалічна“ па сутнасьці і так красамоўна па форме распачатай ім у Лёкарно... Гэты новы пэрыяд паваеннай гісторыі Польшчы павінен быць **вельмі сумным працьвярэжаньнем польскага грамадзянства ад усіх тых пекных і гордых думак і лятуценьняў, якіх з такой запраўднай „інфляцыяй“ напладзіла ў ім „Польшча Пілсудскага“**, але якіх, нажаль, ня здолела „стабілізаваць“ Польшча Грабскага“. Для гэтай цяжкай—не па цяжару працы, але па цяжару самаабмежаваньня—апэрацыі быў зусім неадпаведны ганорны і шчыры паляк расейскага „забору“—Грабскі... Дзеля гэтага патрэбны палітык „аўстрыяцкай школы“, якім і зьяўляецца Скшыньскі.

І можна пацешыць польскае грамадзянства, што ніхто ў Польшчы ня выпаўніць лепш гэтай балючай для яе нацыянальнага гонару, але няўхільнай апэрацыі—самаабмежаваньня і **капітуляцыі** на ўсіх фронтах яе дзяржаўнага жыцьця, як Скшыньскі... Бо хто-ж у Польшчы здолее падаць польскаму грамадзянству гэтую горкую страву — **капітуляцыі без вайны**—пад саладзейшым соўсам, як Скшыньскі?—Хто запраўды здолее больш салодкім і больш „пацыфістычным“ пяяньнем заглушыць балючую для нацыянальнага гонару, але што рабіць: няўхільную — апэрацыю **самаабмежаваньня на Захадзе без вайны**, як той-жа сам слаўны жэнеўскі і лёкарнскі салавей—п. Скшыньскі?!

---

Яшчэ два словы.

„Усё гэта добра і падобна да праўды,—скажа іншы чытач... Складна і з боку „лёгікі гісторыі“. Але гэты абраз не ахоплівае ўсяго, што здарылася ў Польшчы, мо‘ таксама сымвалічна—якраз у апошні мамэнт жыцьця „Польшчы Грабскага“ і ў першы мамэнт нарадзінаў „Польшчы Скшыньска-

Як відаць, францускія войскі адмовіліся рэзаць бедных сірыйцаў, якія паўсталі, каб скінуць з свайго карку ярмо Францыі.

### Арыштаваньне Цэнтральнага Камітэту Польскай Камуністычнай партыі ў Варшаве (?).

„Kur. Por.“ паведамляе, быццам у Варшаве паліцыя высачыла і арыштавала 8 сяброў камуністычнага Цэнтр. Камітэту, захапіўшы іх у часе паседжаньня. Калі агенты паліцыі пачалі стукацца ў дзьверы, камуністы іх ня пусьцілі, але пачалі рваць і зьніштажаць дакументы. Выламаўшы дзьверы, паліцыя знайшла 8 асоб і шмат парванай паперы.

Усіх разам з паперай адаслалі на дапрос. Людзі гэтыя ўсе быццам добра ведамы паліцыі ў Варшаве, як камуністы,—у паджылым веку, дык паліцыя думае, што гэта—галоўныя правадыры партыі ў Польшчы.

## Заграніцай.

### Праграма працы Рады Лігі Народаў.

Плян працы, вызначанай на пачатак сьнежня сэсіі Рады Лігі Народаў, досьць абшырны. У праграме працы Рады стаяць справы арбітражу (палюбоўных судоў), бясьпечнасьці і разбраеньня, зьвязаныя ў адно цэлае ніткай, астаўшайся ад „жэнеўскага пратаколу“, цэлы рад „Гданскіх спраў“, справа запрапанаванай Францыяй міжнародавай эканамічнай канфэрэнцыі; справа арганізацыі мірнай прапаганды праз прэсу; справы фінансавай адбудовы Вэнгрыі і Аўстрыі (перад усім — каб не дапусьціць іх схіліцца ў бок Нямеччыны), справа англа-турэцкага канфлікту за Мосуль, якая мае быць, ужо з даручэньня Гаагскага Трыбуналу, аканчальна (?) вырашана Радай; справа грэка-баўгарскага канфлікту і ў канцы — справа аховы нацыянальных меншасьцяў.

Як бачым, справа прыняцьця Нямеччыны ў склад Лігі ня будзе афіцыяльна абгаварывацца на гэтай сэсіі Рады.

### Справа „Лёкарно“ і ўваходу ў Лігу ў нямецкай Дзяржаўнай Радзе.

На паседжаньні Дзяржаўнай Рады, у склад якой уваходзяць прэм'еры і прэзыдэнты ўсіх саюзных дзяржаў Рэспублікі, разглядаліся справы лёкарнскіх трактатаў і ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў. Справы гэтыя выклікалі вельмі бурную дыскусію. Прэм'еры нацыяналісты (Баварыі, Вюртэмбэргу і Гэссэна) рашуча выскazываліся проці „шкоднага для дзяржавы лёкарнскага пакту“. У выніку галасаваньня — па трэбаваньню Баварыі асобна над кожным з 2 законапраектаў—Лёкарнскі Трактат прыняты 56 галасамі проці 4, а ўваход у Лігу—43 проці 14.

### Рэзультаты „Лёкарно“ для Бэльгіі.

Бэльгійская Рада Абароны Дзяржавы пастанавіла зьменшыць армію—з 4 карпусоў да 3, а таксама скараціць час ваеннай службы да 10 месяцаў у пяхоце і да 12 для спэцыяльных родаў аружжа.

### ССРР ня ўвойдзе ў Лігу Народаў.

Заступнік Чычэрына, Літвінов, заявіў, што ССРР, як і Амэрыка, ня зьбіраецца ўвайсьці ў склад Лігі Народаў, але якраз наадварот будзе трымацца як найдалей ад усякіх гэткага роду ўстановаў, дзе камандуе варожая да ССРР Англія.

---

га“. Як ведама, як раз між гэтымі абыдвума гістарычнымі мамэнтамі раптам высунулася на сьвет ужо, здавалася, пахаваная назаўсёды „Польшча Пілсудскага“... Што ж, трэба неяк, але вельмі асьцярожна, адказаць і на гэтае пытаньне...

Каб ня браць на сябе залішне вялікай адказнасьці, мы перад усім пазавемся на тое, што толькі што казалі на „тугуттаўскім“ — бяз Тугутта — мітынгу ў Вільні прадстаўнікі гэтай самай, быццам пахаванай, „Польшы Пілсудскага“: паслы Косьцялковскі і Хоміньскі. Яны абодва запэўнялі публіку, што „Польшча Скшыньскага“ будзе істнаваць толькі да часу, пакуль ня будуць падпісаны ў Лёндане Лёкарнскія трактаты, дзеля чаго быццам толькі і патрэбны Скшыньскі... Пасьля гэтага распачаецца... неабходная ўжо для Польшчы **ваенная дыктатура Пілсудскага...** Трэба, можа, толькі больш граматна—паводле „лёгікі гісторыі“ — расставіць гэтыя, наагул падыходзячыя да самае праўды, думкі.

Задача „самаабмежаваньня на Захадзе“, якая ставіцца сучаснай Польшчы катэгарычна Захадам, павінна быць вырашана „Польшчай Скшыньскага“,—калі, зразумела, гэтая Польшча знойдзе ў сабе настолькі, як-бы найдэлікатней выразіцца?— „гістарычнай лёгікі“, каб не рызыкаваць вайной, а мо'—і самым сваім істнаваньнем, аддаўшыся пацыфістычным талентам п. Скшыньскага... Калі на гэтае не дазволіць, скажам, польскі, захаваны з далёкай мінуўшчыны, дзяржаўны гонар, тады — вось тады і ўваскрэсьне якраз той „дух вайны“, аб які столькі гавора і піша, уасабляючы яго, Пілсудскі... Што зробіць гэты ізноў паўстаўшы з магілы „дух“ для Польшчы: ці ён што адратуе, ці што ўстабілізуе, — аб гэтым мы можам толькі гадаць...—Хаця, праўда, гадаць... на падставе пэўнага дасьледу з нядаўнага прошлага...

**Наглядчык.**

Канец.

### Новая рэспубліка ў ССРР.

Радавы ўрад пастанавіў стварыць новую самастойную Народную Рэспубліку—у складзе ССРР: **Армянскую.**

Сталіцай новай Армянскай Сацыялістычнай Радавай Рэспублікі будзе м. Нахічэвань, дзе жыве 15.000 армян.

### Упадак габінэту Пэнлевэ.

Даўно ўжо перажываючы агонію — дзякуючы няпэўнаму „падтрыманьню“ сацыялістаў — урад Пэнлевэ нарэшце паляцеў—у часе дыскусіі над яго „санацыйнымі“ — фінансавымі праектамі. Цікава, што габінэт звалены галасамі камуністаў. Сьпярша яны ўстрымаліваліся ад галасаваньня і тым ратавалі ўрад, а якраз у рашучым галасаваньні над § 5 санацыйнага ўставу ўраду, калі Пэнлевэ патрэбаваў яго прыняцьця, пагражаючы адстаўкай, камуністы падалі галасы проці і тым звалілі ўрад.

### Няўдачная спроба габінэту Брыяна.

Прэзыдэнт Думэрг прыняў адстаўку Пэнлевэ і даручыў стварэньне новага ўраду Брыяну, які прыняў даручэньне.

### Брыян зрокся тварэньня ўраду.

Аднак, назаўтрае Брыян заявіў прэзыдэнту, што яму не ўдалося аб'яднаць пад сваім прэм'ерствам усе клюбы рэспубліканскай лявіцы, дзеля чаго ён зракаецца місіі стварэньня ўраду.

Прэзыдэнт Думэрг тады даручыў тварыць урад п. Думэру (таксама з радыкальнай лявіцы).

### Сацыялісты жадаюць улады.

Францускія сацыялісты заявілі, што яны гатовы ўзяць у свае рукі ўладу—або цалком, або падзяліўшыся з дэмакратычнай лявіцай, з якой разам дайшлі перамогі на выбарах. Што датычыць да лічбы партфэляў (міністэрскіх пасадаў), дык яны трэбуюць сабе няменш, як палову ўсіх.

### Ізноў Эрыо.

Думэр зрокся місіі стварэньня ўраду, — як можна думаць, — не згадзіўшыся на дамаганьні сацыялістаў.

Гэта страшэнна падняло галаву правіцы, якая націскае на прэзыдэнта, каб той даручыў злажэньне габінэту... Пуанкарэ, — з тым, каб у склад ураду ўвайшлі коаліцыйна ўсе партыі, за выключэньнем сацыялістаў...

Ня вельмі веручы ў гэтую, пададзеную сэнсацыйным карэспандэнтам „Kur. Por.“, вестку, трэба сцьвярдзіць, што ў — Францыі буржуазія, відаць, больш баіцца сацыялістаў, як у Польшчы, дзе яны—зусім ручныя..

Праўда троха яшчэ рычаць і брэшуць, але ўжо ядуць усе з панскіх рук, нават ліжуць гэтыя рукі..—Дык і „коаліцыя“ у Польшчы—„шырэйшая“.

У апошні мамэнт выясьнілася, што прэзыдэнт даручыў тварэньне ўраду ізноў прадстаўніку лявіцы, п. Эрыо, які ўжо быў у свой час прэм'ерам.

### Дыпляматычная перамога Англіі ў Арабіі, і захват вагабітамі Мэдыны.

Нямецкія крыніцы паведамляюць, быццам англійскай дыпляматыі ўдалося дабіцца важнай перамогі ў Арабіі. Быццам між прадстаўніком Англіі і правадыром наймацнейшага пляменьня вагабітаў, Інб-Сэідам, заключана ўмова, паводле якой увесь край, захоплены вагабітамі, прызнае над сабой пратэктарат Англіі, аддаючы ёй і прадстаўніцтва інтарэсаў вагабітаў заграніцай. Ці не з дапамогай Англіі той-жа Інб-Сэід захапіў аружнай сілай Мэдыну?

### Адмоўны адказ на мірныя прапазіцыі Абд-Эль-Крыма.

Францыя і Гішпанія добра паразумеліся ў супольнай акцыі проці мароккскіх паўстанцаў, дык і рашуча адмовіліся ад мірных прапазіцыяў, зладецца, ужо афіцыяльна зробленых Абд-Эль-Крымам. У кожным разе пачаўшыяся было перагаворы сарваны. Абодва жываеды трэбуюць ад паўстанцаў—бязумоўнай капітуляцыі. Дык вайна, відаць, будзе йсьці далей.

### Кара Грэцыі—за „дзяржаўны бандытызм“.

Камісія Лігі Народаў, разглядаўшая напад Грэцыі на Баўгарыю, прызнала Грэцыю вінаватай і пастанавіла, што Грэцкі ўрад мае выплаціць адшкадаваньня за зробленыя шкоды Баўгарыі — каля паўмільёна даляраў прыватным асобам і каля 300.000 дал. ураду за перавозку войск.

### Новая правакацыя Грэцыі.

Не ўдалося Грэцыі справакаваць вайну з Баўгарыяй раз, дык вышукала ізноў зачэпку, каб выкідаць баўгарскае насяленьне з адабраных у Баўгарыі зямель. Гэтак, пасьля выбуху бомбы ў м. Лерыне, у чым грэцкая паліцыя вінаваціць баўгарскіх „паўстанцаў“, пачаліся масавыя расправы і арышты сярод адвечнага баўгарскага насяленьня ўсей ваколіцы.

Добра знаёмыя нам абразы...

### 847 тысяч даляраў на... „адабраньне Вільні“!

Ковенскі „Камітэт Вызваленьня Вільні“ атрымаў ад амэрыканскіх ліцьвіноў сабраныя там 847.000 даляраў—на прапаганду проці Польшчы і —„адабраньне ад яе Вільні...

### Урадавая большасьць у чэха-славацкім парляманьце.

У новым Сойме чэха-славакіі ўрадавы блёк налічвае 159 паслоў, апазіцыя—141.

У Сэнаце ўрадавая большасьць (80 сэнатараў) толькі на 10 перавышае апазіцыю.

### Пагроза рэвалюцыі ў Эгіпце.

Ведамы правадыр ягіпецкіх незалежнікаў, былы прэм'ер, Заглул-Паша, ізноў стануў на чале рашучай акцыі, скіраванай проці англійскага панаваньня над Эгіптам.

Калі пакорны англійскай уладзе сучасны эгіпецкі ўрад распусьціў парлямант, большасьць яго ў ліку 150 паслоў не падчынілася загаду і, сабраўшыся на паседжаньне, выбрала старшынёй Заглула Пашу, які — ад імя парляманту—выпусьціў адозву да народу, рэзка пратэстуючы проці неканстытуцыйнай палітыкі ўраду. Гмах парляманту і бліжэйшыя вуліцы заняты паліцыяй, якая не прапускае паслоў. Арыштаў пакуль што няма. У адозьве да народу Заглул-Паша просіць захаваць спакой, вычакаўшы, што будуць рабіць англійцы.

Прадстаўніком прэсы ён заявіў, што рэвалюцыя няўхільна, калі народ надалей будзе пазбаўлены вольнасьці, а канстытуцыя будзе гвалчана непапулярным урадам. Народ ня хоча рэвалюцыі, і яго адказныя правадыры пойдуць на ўсе кампрамісы з англійцамі— пад варункам, што апошнія прызнаюць і ўшануюць дзяржаўную незалежнасьць Эгіпту. Тады сама сабой вырашыцца і справа ўваходу Эгіпту ў склад Лігі, у якую ён можа ўвайсьці толькі як сувэрэнная дзяржава, але не як вассал Англіі.

З англійскіх крыніц паведамляюць, што ў Каіры (сталіцы Эгіпту) аб'яўлена асаднае палажэньне. З правінцыі сьцягіваюцца ў сталіцу войскі. Парлямант заняты жаўнерамі. Усе масты на Ніле пад аховай войска. Прэм'ер Зівар-Паша выехаў у Александрыю (пад ахову англійскага флёту!). Уцёк, таксама, відаць, пад ахову англійцаў, і „кароль“, пасаджаны імі на эгіпецкі трон.

Нешта пачалося гарачае.

### Рэвалюцыя ў Манджурыі.

У Парыжу атрымана вестка, быццам у Манджурыі выбухла рэвалюцыя, тамтэйшы ўсемагутны дыктатар Чанг-Со-Лін, які толькі-што абвясьціў сябе „імпэратарам ўсяго Кітаю“ і досьць шчасьліва для сябе — за японска-англійскія грошы — распачаў „заваяваньне ўсяго Кітаю“,—сядзіць у турме...

## Аб чым пішуць.

### Польская прэса аб „свабодзе“ прэсы.

Орган вядомага пана Корфантага „Rzeczpospolita“ надрукаваў вельмі цікавую і неспадзяваную, як для польскае прэсы, стацьцю пад назовам: „Ці істнуе ў Польшчы свабода прэсы?“ Газэта даходзе да вываду, што гэная „свабода“ навет і для польскае прэсы ўжо перастала істнаваць!..

> Зусім сур'ёзна і вельмі паважна трэба голасна запытацца, ці ў Польшчы істнуе свабода прэсы? Марцовая канстытуцыя з 1921 году абвясьціла яе вельмі ўрачыста. У Польшчы была заведзена поўная свабода друкаванага слова, для якое былі ўстаноўлены толькі такія абмежаваньні, якім падлягае кожын жыхар Польшчы...
>
> Аднак, на дзеле гэную загарантаваную ў канстытуцыі свабоду прэсы зводзе да нуля спосаб, якім адміністрацыйныя ўлады тасуюць да прэсы так званыя „Часовыя правілы аб прэсе“. Можам падаць з апошніх гадоў не дзесяткі, а прост сотні прыкладаў, якія дакажуць, што **на дзеле свабода прэсы ў Польшчы ня істнуе.** Праз нейкі час канфіскацыі гэтак размножыліся, што суды пачалі зьнімаць іх, бачучы ў іх яўнае нарушэньне канстытуцыйных правоў і самавольства ўрадоўцаў, якія загадываюць канфіскацыі...

Нажаль, мы, беларусы, ня маем і гэткае пацехі, каб суд з нашых газэт зьнімаў часам зусім фантастычныя канфіскацыі! Але орган п. Корфантага і абураецца толькі за канфіскацыі.... польскіх газэт, лічучы зусім нармальным зьявішчам у Польшчы гэтую асаблівую „сыстэму“, паскольку яна адносіцца да беларусаў і іншых „інародцаў!“ Прынамся „Rzeczpospolita“ піша:

> Толькі салідарнасьць **польскае** прэсы здолее адваяваць загарантаваную канстытуцыяй свабоду прэсы. Да змаганьня за гэтую свабоду трэба паклікаць **усе польскія** часопісі бяз розьніцы!

Наіўныя! Няўжо-ж вы, панове, думаеце, што ўрадоўцы, якім вы самі прызнаеце права на самавольства адносна да прэсы „меншасьцяў“, засмакаваўшы ў гэтым, так лёгка зракуцца яго ў адносінах да польскіх газэт?!.

# ХРОНІКА.

**Лёс рэдактара Вараввы.** „Таёмная інфармацыйная крыніца“ паведамляе праз свой орган „Dziennik Wileński“, быццам рэд. Варавва не арыштаваны палітычнай паліцыяй, а... уцёк, напалоханы вызавам туды! Характэрна гэтае паведамленьне тым, што выясьняе, быццам паліт. паліцыя выклікала грам. Варавву не „гадзіць“ з Паўлюкевічам, ані арыштоўваць яго, а толькі... папытацца, дзе ён жыве!

Цікава: як-жа гэта яму тая-ж паліт. паліцыя аддала павестку, ня ведаючы ягонага адрасу, і чаму пісала ў павестцы, быццам **ён, Варавва, заінтэрэсаваны ў гэтым, а не паліцыя?!**

Штось тут ня клеіцца адно з другім!

Калі-ж праўда, што рэд. Варавва уцёк, дык у гэтым няма нічога дзіўнага: ён пэўне ведаў аб зьнявагах і біцьці ў тэй-жа паліцыі рэд. Пракапені!

Гожа адзначыць, што якраз у той час, калі так „шчыра“ прыймалі рэд. Пракапеню ў паліт. паліцыі,—у Вільню быў прыехаўшы вядомы англійскі парлямэнтарый праф. Сімпсон, які, пачуўшы аб гэтым здарэньні, доўга ня мог паверыць, каб у „культурным“ і „дэмакратычным“ краю былі магчымы падобныя рэчы....

Факт уцёкаў рэд. Вараввы пэўне таксама шмат каму ў Эўропе пакажацца непадобным да веры!

А для нас—гэта так зразумела...

**Рэдактар Войцік зволънены.** У чацьвер, 26. XI., увечары зволънены з Лукішскага вастрогу рэдактар Антон Войцік.

**Вынікі выбараў на агульным сходзе Студ.—Беларусаў.** 22/XI 1925 г. на агульным сходзе Студ.—Беларусаў быў выбраны новы ўрад саюзу ў складзе: старшыня кал. Гоголінскі, віцэ-старшыня кал. Жук, сэкрэтар кал. Шавель, сябра ўраду кал. М. Касатая і скарбнікам кал. Ермаковіч; кандыдатамі кал. Шыран і кал. Амельяновіч.

У рэвізыйную камісію выбраны: кал. А. Зянюк, кал. М. Марцінчык і кал. Грабінскі; кандыдатамі кал. Уласевічанка.

Агульны сход аднагалосна выразіў шчырую падзяку за апеку і прыхільнасьць да арганізацыі праф. Владычцы і пастанавіў прасіць яго і надалей застацца апякуном Саюзу.

**Канфіскацыя беларускіх друкаў.** Як паведамляе „Slowo“, у Лідзе надовячы паліцыя сканфіскавала шмат нелегальных беларускіх друкаў процідзяржаўнага зьместу.

**Беларусы Ашмяншчыны, Сьвянцяншчыны і Віленшчыны гатоўцеся да сьпісу.** Ад 1 да 4 студзеня (stycznia) будзе адбывацца агульны сьпіс насяленьня ў пав. Ашмянскім, Сьвянцянскім і Віленска-Троцкім, а так-жа ў пасе нейтральным польска-літоўскім, што пры граніцы з Літвою.

Гэты сьпіс адбудзецца паводле таго стану, які будзе ў ночы з 31-га сьнежня 1925 году на 1-га студзеня 1926 году.

Сьпіс будзе вельмі абшырны і будзе абыймаць усё: і людзей, і жывёлу, і будынкі, і зямлю, а навет мясцовасьці. Людзей будуць пытацца: сколькі лет, якая сям'я, мейсца дзе радзіўся, як доўга жыве ў гэтай мясцовасьці, якой веры, якой народнасьці, якім языком гаворыць (język ojczysty), якой дзяржавы падданы (obywatelstwo), якой навукі, ці не калека, чым займаецца. Будуць таксама сьпісваць сірот да 16 гадоў; будуць сьпісваць хаты і другія будынкі; быдла, гаспадарствы; будуць пытацца, як далёка ад вагзалу, почты, парахвіі і г. д.

Сьпісамі будуць загадаваць павятовыя Старосты. А рабіць сьпісы будуць вызначаныя да гэтага камісары. Кожны такі „камісар“ будзе мець да сьпісаньня вокруг, дзе жыве каля 250 чалавек. Калі гміна мае напрыклад 10 тысяч душ, то такіх „камісараў“ ці, інакш кажучы, пісарчукоў будзе аж 40.

Гэты сьпіс абыймае толькі т. зв. Сярэднюю Літву, дзе сьпісу ня было. А ў цэлай Польшчы такі сьпіс ужо адбыўся ў 1921 г.

Дык беларусы Ашмяншчыны, Сьвянцяншчыны і Віленшчыны, пакажыце сваю сілу і пішэцеся беларусамі, і кажыце, што родны ваш язык—беларускі.

Можа, вас хто будзе страшыць і намаўляць, каб ня пісаліся беларусамі, а пісаліся палякамі — дык ня верце ім; гэта ашуканцы і чмутары, а ня добрыя людзі, ведайце аб тым, што камісары маюць права толькі тое пісаць, што ім людзі скажуць, а намаўляць і прымушаць ня маюць права. Затым, калі дзе які камісар будзе пісаць па-свойму, або будзе прымушаць, няхай аб гэтым людзі дадуць знаць у Сэйм беларускім дэпутатам.

**Пакараныя пілсудчыкі.** За тое, што полк пяхоты, які стаіць у казармах „Шэптыцкага“, патрэбаваў, каб стары надпіс быў зьняты і заменены новым: „казармы Волі ім. Яз. Пілсудскага“, — ваеннае міністэрства загадала: адсунуць ад выпаўненьня абавязкаў ген. Домб-Бернацкага, палк. Крушэвскага і палк. Скварчыньскага.

**Папраўка.** У нашай заметцы ў хроніцы аб лісьце ў Рэдакцыю генар. Пожэрскага ў справе пабіцьця рэдакт. „Dz. Wil.“ п. Обста абмылкова сказана, што гэты ліст быў надрукаваны ў газэце „Dz. Wil.“. Узапраўднасьці ліст гэты быў зьмешчаны ўва ўсіх віленскіх польскіх газэтах, апрача обставага „Dz. Wil.“.

# Пісьмо у рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Не адмоўце зьмясьціць у Вашай часопісі ніжэйпаданыя радкі.

Рэдактар польскае людаедзкае газэты „Dzien. Wil.“, вядомы Обст, зьмясьціў надовячы ілжывы данос на мяне, быццам я зьяўляюся кіраўніком МОПР-а (Международнаго Общества Помощи Революцыонерам).

На гэты паступак Обста рэагаваць лічу зусім лішнім: само польскае грамадзянства дало ўжо гэтаму пану належную маральную ацэнку, „напісаную“ рукамі польскіх афіцэраў (і, як кажуць, студэнтаў) на абліччы Обста.

Аднак, дзеля таго, каб заінтэрэсаваныя асобы, абаламучаныя Обстам, не зварачаліся да мяне дарэмна ў справах Мопра,—падаю гэтым да агульнага ведама, што яшчэ гэтага пачэснага становішча я не заняў.

**Ант. Луцкевіч.**

Вільня, 25. XI. 25.

# Карэспандэнцыі.

### Водгукі арыштаў у Віленшчыне.

(М. Маладэчына, Вялейск. пав.).

Хваля арыштаў, якая нядаўна праняслася па ўсей Заходняй Беларусі, не абмінула і нашага Маладэчына. Тут заарыштавана было за адзін дзень 18 асоб. Трое былі зволънены з-пад арышту на другі-ж дзень, 12 было зволънена праз 5—7 дзён, а трое сядзяць і дагэтуль у павятовым вастрозе ў Вялейцы — Чарнэцкі з Вялікага-Сяла, Буська Аркадзь і Капуцкі з Маладэчына. Гэтыя трое, як і тыя 12, што зволънены да суда пад надзор паліцыі, абвінавачваюцца па 102 арт. К. К. Зволънены двое Салагубаў, Лявон Дудка, Севасьцян Наваш, Чаеўскі, Татун, Палівода, Харузік, Філістовіч, Карабейнік, Ганэцкі, хлапчук Мікола Буська і др.

### Водгукі з часоў выбараў у Сойм і Сэнат.

(З Ліды).

20-га лістапада сёл. году ў Акружным Судзе разглядалася справа Каст. Сьветавастокава, якога паліцыя вінавацiла за агітацыю за № 16 пры выбарах у Сойм і за раздаваньне ў той час беларускіх газэт: „Беларускага Звону“ і „Krynicy“.

Паліцыя напісала пратакол на Каст. Сьветавастокава і наагул раздула гэтую справу за тое, што ён у свой час напісаў у „Нашай Будучыне“, як паліцыя забіла каваля ў в. Іванкі і як яна зьбірала даніну ў в. Чарнелі цыбуляй, бульбай і інш., калі не заставала ўначы вартаўнікоў.

Пракурор, разглядзеўшы справу, адмовіўся ад абвінавачаньня, і Сьветавастокава апраўдаў.

**Падпішчык.**

# З Радавае Беларусі.

**У літэратурнай сэкцыі.** Літэратурная сэкцыя Інбелкульту ў сучасны момант занята падрыхтоўкай да выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў.

У першую чаргу намечаны да выданьня творы Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Цёткі і інш.

Робяцца захады, каб сабраць розныя творы Максіма Багдановіча, расьцярушаныя па розных пэрыадычных выданьнях.

Дзякуючы разбору рукапісаў, лік вершаў павялічыўся ўдвойчы—замест 150 вершаў ёсьць намер выдаць 300 вершаў. Апроч гэтага, сабраны артыкулы Багдановіча па розных пытаньнях.

Сабраны матар'ял будзе выданы ў 3-х томах.

**Выданьне часопісі „Наш Край“.** У Менску вышаў першы нумар часопісі „Наш Край“, орган Цэнтр. Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце.

Памянёная часопісь будзе выходзіць штомесячна.

**У 1-ай Дзяржаўнай друкарні ў Менску.** У друкарні, у якой друкуецца „Сав. Бел.“, працуе каля 400 рабочых.

У сучасны момант робяцца захады да пашырэньня і належнага ўзбагачэньня прадпрыёмства новымі шрыфтамі, рэаламі і наагул новым інвэнтаром.

Цяпер рабочыя рыхтуюцца да ўсебеларускага друкарскага зьезду, які павінен апрацаваць далейшы плян працы і ўмовы калектыўных дагавораў.

На культурна асьветную працу зьвяртаецца шмат увагі. Гэта праца згрупіравана галоўным чынам вакол клюбу, дзе істнуюць усякія паліт.-асьветныя, драматычныя і іншыя гурткі.

**Драматургічная сэмінарыя.** Мастацкая сэкцыя Інбелкульту 9 лістапада адчыніла драматургічную сэмінарыю—каротка-тэрміновыя курсы па гісторыі, тэорыі і тэхніцы драмы. Беларускі рэпэртуар яшчэ не здавальняе запатрабаваньняў як сталічнае, так і правінцыяльнае сцэны. Большасьць драматургічных досьледаў выяўляюць слабое знаёмства і з тэхнікай драмы наагул і з умовамі сцэны, і з запатрабаваньнямі сучаснага глядача.

**Новы беларускі пэдтэхнікум.** 8 лістапада Наркомпрос адкрыў у Мсьціслаўлі новы беларускі пэдтэхнікум.

# Лекцыя аб каапэрацыі.

Палітычнае і матэрыяльнае палажэньне цяжка адбілася на жыцьці кожнага з нас. Няма чалавека, які-бы ня скардзіўся на свой цяжкі лёс. Але чалавек створаны для барацьбы, і ён павінен бароцца да астатняе сілы дзеля таго, каб жыць; з гэтага выцякае й барацьба цэлых народаў. Той народ, які вядзе барацьбу, будзе жыць і навет гэтай барацьбой палепшыць свой быт.

Адным з сучасных паляпшэньняў быту кожнага народу зьяўляецца каапэрацыя, збудаваная на глубокай ідэі, сумленьні й роўнасьці; але ўсе гэтыя залеты чалавек можа мець толькі тады, калі будзе мець веду й адпаведнае выхаваньне ў гэтым кірунку.

Усе мы павінны старацца як можна балей набыць веды, выхаваць сябе ў духу грамадзянскім і ўпартай працай будаваць тое, што завецца каапэрацыяй.

Толькі набытая веда, дазнаньне й сумленная праца ў каапэрацыі запэўняць сьветлую будучыню для нашае Бацькаўшчыны.

З гэтай думкай мы беларусы ўсе павінны выкарыстываць кожны выпадак, калі можна пачуць тое ці іншае аб каапэрацыі.

Вось-жа ў нядзелю, 29 г. м., а гадзіне 12½ дня ў салі кінэматографу „Гэліос“ вядомы польскі каапэратар п. Рапацкі будзе мець лекцыю на тэму:

„Społeczne zasady kooperacji i jej rola w obecnym i przyszłym ustroju“, якую гожа й варта паслухаць і нам, беларусам, хаця будзе чытацца папольску.

**Беларусізацыя ўстаноў у Случчыне.** „Сав. Бел.“ гэтак піша аб беларусізацыі ўстаноў у Случчыне:

„Да гэтага часу беларусізацыя ў Случчыне кульгала, установы, якія хацелі пераходзіць—пераходзілі, а некаторыя толькі і абмяжоўваліся тым, што разважалі аб беларусізацыі, ня больш. Прычынай гэтага было тое, што ня была ўтворана камісія па ажыцьцяўленьню пастаноў ЦВК і толькі месяц таму назад прэзыдыум АВК склаў гэтую камісію, якая адразу прыступіла да практычнае працы. Праца камісіі дасьць карысьць, гэта можна заўважыць з гутарак супрацоўнікаў правяраемых устаноў, што неабходна вучыць беларускую мову і імкненьне да вывучэньня ў тых гуртках, дзе яны складзены пры ўстановах.

„Праходзячая праца па беларусізацыі сав. устаноў і праца камісіі значна ўзварухнула і тыя колы супрацоўнікаў, якія да гэтай пары глядзелі на беларусізацыю, як на нешта непатрэбнае, пачалі вучыць беларускую мову, павялічылася выпіска газэты „Сав. Беларусь“ на кастрычнік месяц. Нярэдка можна спаткацца і з адмоўнымі паглядамі і гутаркамі аб беларусізацыі: як адпаведныя, так і шэрагавыя працаўнікі ў штодзённай працы ня ўжываюць бел. мовы, ня гледзячы на тое, што могуць ня толькі пісаць, а і гаварыць. На пасяджэньнях, сходах выступаюць на расейскай мове (а пратакол сэкратар піша пабеларуску). Калі зьвяртаецца хто ва ўстанову, даюць яму тлумачэньне парасейску, а паперку яму пішуць пабеларуску.

„Таварышоў, якія сталі імкнуцца да правядзеньня беларусізацыі ў установах, высьмейваюць, дадаючы розныя вымыслы—памяшаўся на беларусізацыі і г. д.“

Як відаць, многа яшчэ беларусам прыдзецца папрацаваць, каб на свае зямлі выкараніць ліхую спадчыну з царскіх часоў!

**Радыё па Беларусі.** Устаноўлены радыё-станцыі з громкагаварыцелямі ў наступных пунктах: у Сянно, Клімавічах, Чэрвені, Азярышчы, Асьвеі, Полацку, Ветрыве, Капылі і Чырвонай Слабадзе. К сьвяту Кастрычнікавай рэвалюцыі мелі быць адчынены радыё-станцыі яшчэ ў 16 пунктах Беларусі.

Таксама к 6 лістапада павінна была адчыніцца радыё-станцыя ў Менску (для перадач).

# Юрыдычныя парады.

### Грам. Ф. Пазьнякевічу.

*Пытаньне*: Ад 1899 г. працаваў я, без пярэрвы, да 1917 г. ў Лунінецкім дэпо, як кацельшчык. Перад апошнім наступленьнем немцаў на Лунінец я быў адкамандзіраваны ў Гомель, потым у Бранск, Бугульму і Маршанск да той самай працы кацельшчыка і ў тым самым чыгункавым ведамстве. Адкуль прыехаў, як бежанец, у Польшчу ў 1921 г.

Прыехаў чуць жывы, бяз усякай надзеі на жыцьцё. Маю жонку і чацьвёра дзяцей і па гэты час, паўсьляпы, паўглухі, паўбязрукі, жыву ў роднай вёсцы. За помачу нікуды не зьвяртаўся, бо ня ведаю куды. Адвакаты дзяруць дорага, дый часта зусім без карысьці. Дык вось прашу паважаную рэдакцыю даць раду: Ці можна дабіцца якой пэнсіі за праслужаныя на чыгунцы 22 гады і, к таму-ж, страціўшы больш як на 50 працантаў здароўя. Калі можна, то куды зьвярнуцца?

*Адказ*: Цяпер позна ўжо падаваць аб пэнсіі, прышлося-б падаваць на імя Празыдэнта Рэчыпаспалітай. Трэба было-б мець дакумэнты з расейскай службы; з прашэньнем трэба зьвярнуцца да „Dyrekcji Kolejowej“.

Рэдактар-Выдавец: Ян Марцінеўскі.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.